Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Íà ñàì ûì âûñîê³ ì óçðî¢í³

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо некалькі гадоў у Паставах пры падтрымцы прыватнага мэблевага цэнтра на сучасным узроўні развіваецца дзіцячы і юнацкі футбол.**

Сёлета вясной упершыню ў гісторыі ФК "ПМЦ-Паставы" адразу дзве яго каманды возьмуць старт у XXI чэмпіянаце Беларусі сярод 15-17 гадовых футбалістаў. Рыхтуючыся да сезону, юныя пастаўчане на працягу паўмесяца правялі плённы вучэбна-трэніровачны збор на базе італьянскай прафесійнай каманды "Красс", дзе ў таварысцкай сустрэчы перамаглі мясцовых аднагодкаў з лікам 4:0. Сонечнае цёплае надвор'е дазволіла гасцям з Беларусі трэніравацца два разы ў дзень. Яны змаглі таксама з'ездзіць у суседнюю Славенію і правесці трэніровачны матч з аднагодкамі, чэмпіёнамі гэтай краіны. Зараз пастаўчане складаюць аснову юнацкай футбольнай зборнай Віцебскай вобласці, якая неўзабаве згуляе ў Брэсце ў фінале турніра спаборніцтваў Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі. Па ацэнках спецыялістаў, юнацкая футбольная каманда з Пастаў можа прэтэндаваць на медалі нацыянальнага першынства. Пачнуць сезон пастаўчане матчамі на выездзе ў Барысаве супраць рэзервістаў мацнейшага ў краіне клуба "БАТЭ". Дарэчы, у школе ПМЦ займаюцца цяпер футболам каля 140 школьнікаў розных узростаў, адна з каманд 1998 года нараджэння заняла 3-е месца на прадстаўнічым міжнародным турніры, які прайшоў у Мінску.

Óøàöê³ ðà¸í

# Ðàñêóï³ë³ ¢ñå ïóö¸¢ê³

■ Станіслаў Раманчук

**Не сакрэт, што апошнім часам адпачынак з лячэннем у санаторыях і прафілакторыях Беларусі становіцца ўсё больш папулярным сярод замежных грамадзян, асабліва расіян.**

У вясенне-летні перыяд простым беларусам туды стала цяжка трапіць. Не стаў выключэннем і санаторый "Лясныя азёры", размешчаны ва Ушацкім раёне, дзе шмат гадоў займаюцца лячэннем хвароб нервовай сістэмы, дыхання і кровазвароту. Таму яго уладальнік УП "Белпрафсаюзкурорт" аб'явіў спецыяльную акцыю сярод членаў айчыннай Федэрацыі прафсаюзаў. На санаторныя туры ў цёплы час года ўсе жадаючыя павінны былі забраніраваць да 30 красавіка нумары ў здраўніцы і аплаціць палову кошту пуцёўкі з існуючай 15-працэнтнай зніжкай для членаў прафсаюза. Поспех гэтай акцыі пераўзышоў усе спадзяванні. За кароткі час суайчыннікі раскупілі свабодныя месцы ў гэтым санаторыі на 200 месц. Яны паступілі правільна, паколькі, акрамя прыгожай мясцовасці, тут ёсць радонавыя лячэбныя крыніцы. Побач на глыбіні ёсць крыніцы для выпуску вядомай мінеральнай вады "Вечалле". Камфортны клімат на фоне дзіўнай прыроды, збалансаванае харчаванне і аздараўленчыя працэдуры робяць побыт карысным і памятным. Да таго ж і на экскурсіі ездзіць далёка не трэба, бо на Ушаччыне паблізу знаходзяцца мемарыяльны комплекс "Прарыў", дамы-музеі народных пісьменнікаў Беларусі П. Броўкі і В. Быкава.

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ó÷îðà à¢òàëà¢êà, çà¢òðà – á³áë³ÿáóñ

■ Чэслаў Якубовіч

**З кожным годам колькасць насельніцтва ў сельскай мясцовасці імкліва скарачаецца, а ўслед за гэтым зачыняюцца назаўсёды школы, дзіцячыя садкі і іншыя аб'екты сацкультбыту.**

Ужо даўно ў глыбінцы абслугоўваюць вяскоўцаў аўталаўкі, з'явіліся і перасоўныя пошты на калёсах. Шаркоўшчынскі раён стаў першым на Віцебшчыне, які абзавёўся бібліябусам. Зараз гэта бібліятэка на калёсах абслугоўвае чытачоў па 12 розных маршрутах не толькі ў аддаленых вёсачках, але і на фермах, майстэрнях і ў пансіянаце для адзінокіх пажылых людзей. Усё часцей на такія выезды бібліятэкары з райцэнтра на мікрааўтобусе "Газэль" выязджаюць разам з культработнікамі. Адзін з такіх нядаўніх рэйсаў надоўна запомніўся жыхарам вёскі Лядзікі. Яе жыхары сабраліся разам, атрымалі акрамя заказаных кніг і даведачнай літаратуры яшчэ і зарад духоўнай энергіі. Для іх госці падрыхтавалі спецыяльную канцэртную праграму. Мясцовым жанчынам-пенсіянеркам прыйшліся да спадобы задушэўныя песні пра маці, каханне, жаночую долю. Некаторым хацелася ў гэты момант нават падпяваць самадзейным артыстам. Для жыхароў аддаленых такіх вось населеных пунктаў падобная ўвага дастаўляе радасць, бо ў жыцці галоўнае ўсё ж змястоўныя зносіны і кантакты паміж людзьмі, асабліва калі іх застаецца жменька.

## Лічба нумара

**1 млрд. $** - такі памер чарговага расійскага дзяржаўнага крэдыта, які тэрмінова папрасіла Беларусь напярэдадні Дня яднання народаў двух краін у сваёй суседкі, партнёра па так званай Саюзнай дзяржаве і па Мытнаму саюзу. Аднак сёлета для яго атрымання расіяне, як раней МВФ, найперш запатрабавалі ад сваіх беларускіх калег ва ўрадзе прадставіць на ўзгадненне праект праграмы мер па стабілізацыі макраэканамічнай сітуацыі. У адваротным выпадку інакш гэты крэдыт Расія проста бы не прадаставіла на фоне зніжэння суверэнных крэдытных рэйтынгаў нашай краіны (сталі сумнявацца заходнія банкі ў магчымасцях РБ вярнуць ранейшыя даўгі).

Каб так не атрымалася, вечарам 31 сакавіка Саўмін РБ накіраваў у Маскву адпаведны тэкст праграмы на 6-7 старонках далейшых эканамічных мер і структурных рэформ, якія паскараюць правядзенне прыватызацыі аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці. Дарэчы, каб не шакіраваць грамадскасць і не выклікаць паніку, тэкст гэтага дакумента не афішыраваўся, як і былі незразумелымі тэрміны правядзення далейшых перамоваў і тэрміны атрымання такой сумы. Як вядома, яшчэ 2 млрд. долараў Беларусь папрасіла ў Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС.

Добра яшчэ, што бакі на перамовах у Маскве аператыўна ўзгаднілі парадак сумеснай працы па падрыхтоўцы крэдытных пагадненняў. Цяпер рынак чакае паступлення гэтай сумы грошай ад РФ, што ў пэўнай ступені дапаможа стабілізіраваць абстаноўку з валютай, але раней мая, а магчыма і пазней, крэдыт атрымаць не ўдасца. Між тым, у новай абстаноўцы Крэмль, відавочна, будзе дабівацца ад беларусаў прыватызацыі, адмены існуючых абмежаванняў на валютным рынку і змяншэння расходаў дзяржбюджэту, каб разруліць сітуацыю з дэфіцытам плацежнага балансу.

І ўжо на ўсіх узроўнях пачалі паўтараць агучаны беларускім лідарам тэзіс, што "жыць неабходна па сродках". На практыцы гэта прывяло да рашэння адправіць на дапрацоўку праект дзяржпраграмы развіцця сяла на 2011-2015 гады, скараціць яе фінансаванне напалову (да 60 трлн. рублёў) пры захаванні іншых параметраў росту. Каб выжыць любой цаной, Нацбанк Беларусі абмежаваў пакупку валюты іншымі банкамі і імпарцёрамі на біржы, пайшоў на рост цэн і ўзнікненне множнасці курсаў, і гэта выклікала з'яўленне нелегальнага рынку долараў і еўра.

Канечне, пакуль дэфолт краіне не пагражае, і золатавалютныя рэзервы ўдалося выратаваць, але якой цаной? У насельніцтва няма ранейшага даверу да ўстойлівасці беларускага рубля і айчыннай банкаўскай сістэмы. У пачатку года штомесяц беларусы куплялі тавараў на 1 млрд. USD болей, чым прадавалі сваіх вырабаў за мяжу. Але Нацбанк вырашыў не праводзіць разавую дэвальвацыю беларускага рубля, спадзеючыся, што з цягам часу ўсе заспакояцца, сітуацыя выправіцца, хоць на самой справе тэмпы росту знешняга доўгу апярэджваюць тэмпы росту ВУП.

Зразумела, наперадзе ўсіх чакаюць няпростыя часы, прыйдзецца на 3 трлн. рублёў скараціць расходы дзяржбюджэту, а народу зацягнуць паясы і змірыцца з тым, што цэны на рэзка падаражэўшае паліва і на многія іншыя тавары ў нас вышэйшыя, чым у Расіі і ў суседніх краінах. Магчыма, з цягам часу тая ж валюта ў абменніках з'явіцца, але вось толькі ўжо па якім курсе? Пакуль жа ўзнікаюць пытанні, чаму адразу сёлета ўзнікла столькі падобных праблем?

Адказ на іх навідавоку. Вось такім чынам адгукаецца перадвыбарны ажыятаж, павышэнне заробкаў бюджэтнікам да акрэсленай мяжы 500 долараў. Але гэта толькі паўбяды, бо праблем было б у нас менш, калі б не такі моцны быў па РБ адміністрацыйны ціск, а развіваўся сапраўдны прыватны сектар эканомікі, паўстаў сярэдні клас пры моцнай канкурэнцыі. Але гэтага няма, а пачаць рэальную лібералізацыю эканомікі ўлады так пакуль і не рашыліся.

У выніку маем рост цэн з пачатку года пад 6 %, сталі ці не лидзь датацыйным рэгіёнам Расіі і спадзяёмся на яе фінансавую дапамогу ў чарговы раз. Страшаць многіх і аб'яўленыя структурныя рэформы, прыватызацыя, бо ўслед за гэтым можа ўзрасці і беспрацоўе.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5ru

| Мясцовы час | чацвер 14.04.11 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | пятн. 15.04.11 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | сб. 16.04.11 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | нядз. 17.04.11 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | пн.18.04. 03:00 | 09:00 | 15:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | 0 | +2 | +5 | +3 | 0 | +3 | +6 | +4 | +2 | +5 | +10 | +6 | +4 | +6 | +8 | +6 | +4 | +6 | +13 |
| Ціск, мм | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 | 747 | 748 | 749 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 751 | 749 |
| Вільготнасць, % | 89 | 75 | 59 | 76 | 89 | 82 | 55 | 87 | 95 | 84 | 48 | 78 | 83 | 81 | 84 | 96 | 98 | 94 | 54 |
| Вецер м/сек | С-В 3 | С 4 | С 5 | С 3 | С-З 3 | С-З 2 | С 2 | С-З 2 | З 2 | З 2 | З 3 | Ю-З 3 | З 3 | Ю-З 4 | З 4 | З 2 | З 2 | З 3 | З 7 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Шэраг беларускіх банкаў абмежавалі выдачу рублёвых крэдытаў, бо зноў узніклі невялікі абменных курсаў валют, цяжкасці з набыццём долараў і еўра ў касах абменнікаў. У Беларусі зноў больш чым на 10 % павысілі розничныя цэны на бензін і дызпаліва, адчувальна для насельніцтва павялічыліся тарыфы на гарадскія перавозкі пасажыраў. На фоне высокай інфляцыі вырашана скараціць расходы дзяржбюджэту на 3 трлн. рублёў і пачаць жыць па сродках, каб не дапусціць абвалу эканомікі. Нацбанк Беларусі поўнасцю выключыў магчымасць разавай дэвальвацыі айчыннага рубля, а ўрад атрымаў заданне сёлета скараціць на 50 % фінансаванне дзяржпраграм у рэальным сектары.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Англія.** На міжнароднай канферэнцыі ў Лондане каля 40 міністраў замежных спраў краін свету вызначылі будучае народа Лівіі, прадстаўнікоў Расіі на гэты саміт не паклікалі.

**Лівія.** Адзін з бліжэйшых паплечнікаў М. Кадафі глава МЗС краіны Мусса Кусса папрасіў палітычны прытулак у Англіі, раней супраць яго выступілі шраг дыпламатаў.

**Партугалія.** Пасля адстаўкі ўрада ў краіне ўзнік яшчэ і палітычны крызіс, улады пакуль адмовіліся ад замежнай падтрымкі выратавання эканомікі, ім трэба знайсці 75 млрд. EUR.

**Японія.** Па ацэнцы экспертаў, для аднаўлення інфраструктуры краіны пасля землятрусу, цунамі і аварыі на АЭС спатрэбіцца 5 гадоў, матэрыяльныя страты склалі 309 млрд. USD.

**ЗША.** Дзярждэпартамент ЗША ўвёў санкцыі супраць ВА "Беларусьнафта" з-за яго кантрактаў з іранскай кампаніяй "Intertrade" па распрацоўцы радовішча нафты Джафеір.

**Кітай.** Адразу ў 14 рэгіёнах краіны, уключаючы Пекін і Шанхай, улады ўвялі штодзённы радыяцыйны маніторынг вады для піцця і прадуктаў пасля аварыі на японскай АЭС.

**Расія.** Да гадавіны тэрактаў у Маскоўскім метро спецслужбам ФСБ удалося знайсці і знішчыць у Інгушэціі базу баевікоў і 17 тэрарыстаў, арганізатараў узрыва аэрапорта.

**Германія.** Правячая партыя ХДС прайграла ўпершыню мясцовыя выбары ў двух багатых федэральных землях "зялёным" і сацыял-дэмакратам з-за сваёй пазіцыі па экалогіі і АЭС.

**Ірак.** Да пажыццёвага зняволення Вярхоўны суд прыгаварыў былога віцэ-прэм'ера Тарыка Азіза за прыналежнасць да расправаў над шыітамі падчас кіравання дыктатара С. Хусейна.

**Італія.** Венецыянская камісія пры Савеце Еўропы прызнала супярэчнай украінскай Канстытуцыі статус другой дзяржаўнай рускай мовы на Украіне па праекце новага закона.

**Швейцарыя.** У адной з самых спакойных краін Еўропы ўзарвалася пасылка з бомбай у будынку асацыяцыі энергетыкі горада Ольтэн, укралі 4 брыльянты з сусветнай выставы.

**Казахстан.** Пастаўкі казахскай нафты ў Беларусь, як заявіў пасол краіны ў РБ Анатоль Смірноў, пачнуцца толькі пасля стварэння Адзінай эканамічнай прасторы трох дзяржаў.

**Карэя.** Спецыялісты кампаніі Samsung пацвердзілі, што толькі праз 10 гадоў стануць масава даступнымі тэлевізары 3D пакалення аб'ёмнага адлюстравання без спецакуляраў.

**Расія.** На Новадзявочых могілках Масквы знайшла вечны спакой легенда савецкага кіно, народная артыстка СССР Людміла Гурчанка, нядаўна ёй зрабілі складаную аперацыю.

**ЗША.** На поўначы штата Каліфорнія абрушыўся ў акеан 12-метровы ўчастак аўтастрады з-за апоўзняў зямлі пасля дажджоў, ніхто з людзей у гэты момант не пацярпеў.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Глава місіі МВФ у Беларусі Крыс Джарвіч прапанаваў ураду РБ хутчэй прыняць непапулярныя меры, інакш айчынны фінансавы рынак чакаюць узрушэнні і абвал.

**Астравец.** Гатоўнасць даць крэдыты (3 млрд $) на інфраструктуру будучай АЭС выказалі вядучыя расійскія банкі ВЭБ і Газпрамбанк, гэта будуць экспартныя звязаныя крэдыты.

**Мінск.** Як і іншыя калегі, глава Белгазпрамбанка Віктар Бабарыка на сходзе акцыянераў не выключыў хуткую сур'ёзную дэвальвацыю беларускага рубля, шраг іншых мер.

**Дзяржынск.** А. Лукашэнка заявіў, што раздача "за так" грошай АПК скончылася, за 5 мінулых гадоў дзяржава ўклала ў вёску амаль 50 млрд. долараў, крэдыты не спішуць.

**Пружаны.** На сустрэчы ў райцэнтры старшыня Дзяржпагранкамітэта РБ Ігар Рачкоўскі паведаміў, што Беларусь сёлета адмовіцца ад калючага дроту на граніцы з Польшчай.

**Шклоў.** Амаль 165 млрд. рублёў патрацілa дзяржава, каб выратаваць ад банкротства і тэхнічна абнавіць буйнейшае прадпрыемства райцэнтра – папяровую фабрыку "Спартак".

**Мінск.** З пачатку новага стагоддзя з розных куткоў краіны перабраліся ў сталіцу жыць амаль 170 тысяч чалавек, зараз у чарзе на атрыманне жылля тут ужо 280 тысяч жадаючых.

**Брэст.** Падчас сезону нарыхтовак бярозавага соку вядомая фірма "Савушкаў прадукт" нарыхтавала яго 5 тысяч тон напітку, а ўсе лясгасы вобласці разам - толькі 7 тысяч.

**Гродна.** Да канца года трэст "Гроднажылбуд" дабудуе 2 жылыя дамы-даўгабуды, аднак падманутыя дольшчыкі павінны за гэта заплаціць дадаткова, кошт кв. метра стаў 3 млн.

**Баранавічы.** Міліцыя пачала шукаць махляра, які ў трох магазінах набыў у растэрміноўку мэблю, тэлевізар, ноўтбук з прынтарам па чужым пашпарце, які згубіў яго ўладальнік.

**Гомель.** На працягу двух сутак невядомы злачынца з нажом і пісталетам днём дзёрска абрабаваў 4 прыватныя магазіны адной фірмы на розных вуліцах абласнога цэнтра.

**Кіраўск.** З-за высокай арэнднай платы і вялізных страт знакаміты калгас "Рассвет" імя Арлоўскага закрыў свае фірменныя магазіны гародніны ў Магілёве і ў Бабруйску.

**Маларыта.** Каля фізкультурна-аздараўленчага комплекса з плавальным басейнам у райцэнтры адкрылі 2 сучасныя тэнісныя корты, імі займаліся спецыялісты са Славеніі.

**Брэст.** Копіяй знакамітага маста ля Летняга саду Санкт-Пецярбурга стане аднаўлены, якім быў у сярэдзіне XIX стагоддзя, пагранічны пераход праз Буг у польскі горад Цярэспаль.

**Магілёў.** Услед за Гомелем у горадзе нечакана адмянілі канцэрт групы "Ляпіс Трубяцкі", па краіне ў "чорны спіс" забароненых трапілі яшчэ шэраг вядомых рок-груп і музыкантаў.

## Áåëàðóñü ³ Ðàñ³ÿ ñòâîðàöü êàìïàí³þ ïà ïåðàïðàöî¢öû ³ çáûöå ìàëàêà

■ Андрэй Кажамякін, БелаПАН

Беларусь і Расія дамовіліся аб стварэнні кампаніі па перапрацоўцы і збыце малака на рынку краін СНД. Пра гэта паведамляецца ў сумесным прэс-рэлізе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі і расійскага Нацыянальнага саюза вытворцаў малака (Саюзмалако).

"У мэтах павышэння якасці малочнай прадукцыі і забеспячэння больш эфектыўнай сістэмы збыту бакі дамовіліся аб стварэнні аб`яднанай расійска-беларускай кампаніі па перапрацоўцы і збыце малака на рынку краін СНД", – адзначаецца ў прэс-рэлізе.

Запланаваны першапачатковы аб`ём рэалізацыі малочных прадуктаў – 1 млн. тон у год у пераліку на сырое малако. Бакі пацвердзілі, што ўзгодненыя меры не прывядуць да значнага росту цэн на тавотую малочную прадукцыю: павышэнне не перавысіць узроўню інфляцыі. Як вынікае з прэс-рэліза, дамоўленасць аб стварэнні аб`яднанай малочнай кампаніі была дасягнута 7 красавіка падчас нарады кіраўніцтва Мінсельгасхарча і Саюзмалака. На ёй абмяркоўваліся пытанні, што тычацца функцыянавання малочных галінаў Беларусі і Расіі.

Беларускі бок падтрымаў ініцыятыву Саюзмалака аб павышэнні імпартных пошлін на асобныя віды малочнай прадукцыі. Абмеркаваць гэта пытанне больш дэталёва вырашана на найбліжэйшым пасяджэнні Камісіі Мытнага саюза.

Напярэдадні "сезона вялікага малака" бакі дамовіліся аб карэкціраванні аб`ёмаў паставак малака і малочнай прадукцыі ў выпадку неабходнасці ў межах балансу гандлю 2011 года.

Штодзённа прадстаўнікі міністэрстваў сельскай гаспадаркі дзвюх краін і Саюзмалака будуць у фармаце селектарных нарад карэктаваць аб`ёмы паставак і рэкамендаваныя цэны на малочную прадукцыю ў адпаведнасці з сітуацыяй на рынку. Так, ужо найбліжэйшым часам плануецца перагледзець у бок павышэння рэкамендаваныя цэны на жывёльнае масла і закупачныя цэны на малако, гаворыцца ў прэс-рэлізе.

Удзельнікі нарады таксама абмеркавалі праблемы паставак малака і малочнай прадукцыі на тэрыторыю Мытнага саюза з трэціх краін.

"З мэтай узмацнення кантролю і павышэння якасці малочнай прадукцыі на рынку" Мінсельгасхарч і Саюзмалако дамовіліся найбліжэйшым часам сумесна вызначыць спіс кампаній, упаўнаважаных рэалізоўваць малако і малочную прадукцыю на рынку Мытнага саюза.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Толькі ад рэалізацыі няякаснага малака калгасы вобласці страцілі летась амаль 20 млрд. рублёў. "Вызначыўся" і Сенненскі раён, дзе ў 2010 падзеж статку вырас на 44 %.

**Орша.** На базе льнокамбіната да 2013 года вырашана стварыць ільняны холдынг з удзелам яшчэ 22 льнозаводаў, інстытута лёну і 7 ільностанцый, 8 гадоў ішлі размовы пра гэта.

**Віцебск.** Адзіны ў РБ маслаэкстрацыйны завод для скарачэння затрат пабудаваў сучасную экамічную кацельню, што дазволіла адмовіцца ад пакупак пару ад мясцовай ТЭЦ.

**Наваполацк.** Больш 30 буйных гандлёва-вытворчых прадпрыемстваў вобласці і суседняй Міншчыны ўдзельнічалі ў міжрэгіянальнай будаўнічай выставе "Сучасны дом".

**Орша.** Мясцовы завод "Чырвоны барэц" стане галаўным у новым станкабудаўнічым холдынгу, які ствараецца яшчэ з 22-х прадпрыемстваў па краіне і 11,5 тысяч работнікаў.

**Мёры.** Пры пераходзе па лёдзе невялікай ракі аказаўся ў вадзе і патануў жыхар раёна, яшчэ адзін мужчына так загінуў у Дубровенскім раёне, сёлета вадаёмы забралі 4 чалавек.

**Орша.** Тут склалася найгоршая па вобласці сітуацыя з медработнікамі: не хапае для працы 90 урачоў, а на Віцебшчыне зараз дэфіцыт амаль з 5 тысяч медыцынскіх сясцёр.

**Верхнядзвінск.** Цудам выратаваўся ад смерці падпіты 52-гадовы жыхар райцэнтра, які праваліўся вечарам пад лёд ракі Дрыса, яго ўбачыла жанчына і выклікала дапамогу МНС.

**Лепель.** Пракуратура выявіла, што дырэктар аднаго з мясцовых ААТ злоўжыў сваім службовым становішчам і атрымаў падманам службовы дом, маючы 3-пакаёўку ў горадзе.

**Віцебск.** Для правядзення юбілейнага ХХ фестываля мастацтваў "Славянскі базар" 8-14 ліпеня трэба выдаткаваць з розных крыніц фінансавання 13 млрд. рублёў.

**Шаркаўшчына.** Чарговы раённы турнір маладых эрудытаў "Брэйн-рынг" з удзелам 17 каманд нечакана выйгралі інтэлектуалы з вядучага сельгаспрадпрыемства "Жвіранка".

**Лужасна.** Вучань 11 класа мясцовай гімназіі Станіслаў Капылоў стаў пераможцам рэспубліканскай алімпіяды па інфарматыцы, ён ужо студэнт любога профільнага ВНУ.

**Віцебск.** З самым сціплым бюджэтам (1,4 млн. $) у вышэйшай лізе пачаў чэмпіянат РБ па футболе рэзка абноўлены ФК "Віцебск", камандзе не па сілах рашаць сур'ёзныя задачы.

**Новалукомль.** Вечарам на мясцовым возеры супрацоўнікі МНС і вадалазы выратавалі трох рыбакоў з Віцебска, калі адарвала і панесла ад берагу крыгу, на якой лавілі рыбу.

**Віцебск.** Да 115-годдзя мясцовай студыі мастакоў Юрыя Пэна прымеркавалі ў Мастацкім музеі адкрыццё буйной выставы "Мастакі Віцебска. Канец XX – пачатак XXI стагоддзя".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Ада Райчонак,**
*м. Германавічы*

# Усевалад Шыра́н – легендарны доктар з Лужак

Жаданне напісаць артыкул пра доктара Усевалада Шырана ў мяне ўзнікла даўно.

Ходзячы па людзях у пошуках краязнаўчага і этнаграфічнага матэрыялу, я не раз чула ад людзей пра цудоўнага лужэцкага доктара, які вяртаў да жыцця безнадзейна хворых. Потым да мяне трапіла кніга нашага земляка Васіля Стомы-Сініцы, дзяцінства і юнацтва якога прайшло ў Лужках – “Маё мястэчка”, дзе ён падрабязна апісвае побыт сваіх аднавяскоўцаў, адносіны паміж людзьмі розных канфесій, расказвае пра насельніцтва кожнай вуліцы, дае вельмі трапныя характарыстыкі асобным людзям.

Самымі знакамітымі постацямі таго часу былі ксёндз Язэп Германовіч і доктар Усевалад Шыран.

Доктар Шыран нарадзіўся 1 сакавіка 1906 года ў вёсцы Лась Мазавецкага ваяводства. Таленавітаму вясковаму хлопцу ўдалося ў 1925 годзе скончыць Наваградскую гімназію і ў гэтым жа годзе паступіў у Віленскі ўніверсітэт на медычны факультэт. Матэрыяльныя ўмовы прымусілі яго ўжо на трэцім курсе шукаць сабе працу. Ён стаў малодшым асістэнтам кафедры апісальнай анатоміі. Самастойна праводзіў навуковыя даследванні.

Ужо ў тыя часы ён зацікавіўся палітыкай, пазнаёміўся з вядомымі дзеячамі беларускага адраджэння. Цікавасць да беларускай літаратуры вылілася ў жаданне выдаваць “Часопіс для ўсіх”, першы і апошні нумар якога выйшаў 13.03. 1932 года ў 2000 асобніках. Там, акрамя яго вершаў, былі змешчаныя вершы Міхася Машары. Але часопіс быў хутка знішчаны паліцыяй, а яго рэдактар і Міхась Машара апынуліся на Лукішках.

Па сведчанні прафесара Андрэя Майсяёнка, вядомага ў краіне краязнаўцы, народны пісьменнік Беларусі Максім Танк вельмі цікавіўся асобай Усевалада Шырана. У пісьме да Майсяёнка Танк пісаў: “Сустракаўся я з ім больш за 30 разоў. Пазнаёміў мяне з ім адзін з кіраўнікоў камуністычнага падполля вясной 1932 года. Шыран тады збіраўся выдаваць “Часопіс для ўсіх”. У ім змяшчаліся і мае апавяданні і вершы. Часопіс быў адразу зліквідаваны польскай цэнзурай. З таго часу сувязь з маім рэдактарам неяк абарвалася. І толькі ў 1933 годзе, калі я працаваў у падполлі, я зноў сустрэўся з Усеваладам Шыранам у Лужках”.

Перад таленавітым доктарам Усеваладам Шыранам была адкрыта дарога ў вялікую навуку. Ён ужо працаваў паспяхова ва ўніверсітэце. Тое, што ён прымаў актыўны ўдзел у камуністычным руху у Заходняй Беларусі, абарвала яго навуковую кар’еру, і 1 траўня 1932 года ён апынуўся на Лукішках.

Думаю, што вядомая ў той час паэтка Зоська Верас (Людвіка Войцік) дапамагала не толькі Міхасю Машару, носячы перадачу ў турму. З Лукішак вызваліцца дапамагла Шырану яго сяброўка-аднакурсніца Браніслава Смольская. Яна знайшла грошы і пад заклад у 300 злотых вызваліла сябра з няволі. Гэтыя грошы ёй пазычылі віленскія прафесары Сяргей Шылінг-Сергяевіч і Міхал Райнер.



**Усевалад Шыран –** легендарны лекар нашага краю, беларускі патрыёт. Загінуў ад рук НКУС на Дарозе Смерці Беразвечча - Ула ў чэрвені 1941 г.

Пасля турмы, як нядобранадзейнаму грамадзяніну, Усеваладу нідзе не давалі працаўладкавацца ў дзяржаўных установах не толькі ў Вільні, але і вясковай мясцовасці. І вось Смольская і Шыран вырашылі заняцца прыватнай практыкай. Месцам жыхарства яны абралі мястэчка Лужкі Дзісненскага павета.

Мясцовыя лужэцкія ўлады сустрэлі доктара-камуніста варожа. Цяпер я звярнуся да кнігі Васіля Стомы-Сініцы: “За некалькі тыдняў слава аб новым добрым доктары абляцела некалькі дзясяткаў кіламетраў навокал. Па-першае, ён ужываў зусім іншыя метады лячэння, па-другое, гаварыў на ўсім зразумелай мове, па-трэцяе, ён браў смешна нізкія ганарары. А сам хадзіў у стаптаных чаравіках і паношаным плашчы. Пацыенты, якія перасталі верыць у сваё выздараўленне,здаравелі, а іхнія гаспадаркі заставаліся непарушанымі, бо за самыя складаныя аперацыі ён браў па 35–50 злотых. Праз некаторы час ён зладзіў у адной з большых хат Германавіцкай вуліцы добра абсталяваную лякарню, а яго пацыенты ляжалі амаль ва ўсіх суседніх хатах”.

Такая дзейнасць Шырына аказалася не па нутру іншым дактарам, яны катастрафічна хутка гублялі сваіх пацыентаў. Супраць яго пачалася шалёная агітацыя. Яго вінавацілі ў камуністычнай прапагандзе. І вось доктар Шыран зноў апынуўся на Лукішках. У яго абарону падняліся простыя людзі. Пад кіраўніцтвам аднаго настаўніка пачалі збірацца подпісы ў падтрымку яго. Пад петыцыяй падпісалася больш за 500 чалавек.

Праз пэўны час яго выпусцілі. Хутка над доктарам адбылася судовая расправа.Тыя, хто абвінавачваў яго ў камуністычнай прапагандзе, не змаглі гэтага даказаць, але суд у сваёй звярынай нянавісці да ўсяго беларускага забараніў яму пражываць у прыгранічнай паласе больш як тры тыдні на адным месцы. А Лужкі сапраўды знаходзіліся ў гэтай паласе. Здавалася, што становішча безвыходнае.

Але доктар Шыран хутка абдурыў суд. Адразу пасля суду ён паехаў у Германавічы (12 кіламетраў ад Лужак) і зняў там кватэру. Пражыўшы тут тры тыдні (відаць, што ён тут толькі начаваў), ён ішоў у гміну і запаўняў адпаведны бланк аб пераездзе. Потым жыў тры тыдні ў Лужках і тут зноў пісаў адпаведныя паперы.

У Германавічах у гэты час працаваў доктар Мікалай Герасімовіч. Яны хутка пасябравалі. Былыя вясковыя хлопцы скончылі адну навучальную ўстанову, погляды на беларушчыну былі аднолькавыя, адносіны да працы былі ў абодвух шчырыя, ім было аб чым пагутарыць. Абодва размаўлялі толькі на беларускай мове.

Аб сваім шчырым сяброўстве з Шыранам расказаў Андрэю Майсяёнку сам Герасімовіч. Дапамагалі яны адзін аднаму парадамі, дзяліліся вопытам работы.У хуткім часе высветлілася, што пісалі на Шырана данос сведкі, што выступілі супраць яго на судзе: мясцовы суддзя, ксёндз Станіслаў Астаневіч, кіраўнік школы і камендант паліцыі і іншыя. Прыкладна праз год ехаў кіраўнік школы з жонкай з гасцей. Раптам апошняй стала дрэнна. Занеслі яе ў першую сялянскую хату і паслалі за доктарам Згірскім. Агледзеўшы хворую, той сказаў, што неадкладна трэба рабіць аперацыю, за што ён не бярэцца.

Паслалі за Шыранам. Той сцвердзіў, што для яе жыцця – гадзіны. Ён загадаў прынесці некалькі вялікіх лямпаў і прыступіў да аперацыі. Яна прайшла вельмі добра. Цікава, што пры аперацыі яму асіставаў яго злейшы вораг доктар Згірскі. Доктар Шыран на самакаце кожны дзень наведваў хворую. Грошы за лячэнне яе Шыран не ўзяў, сказаўшы: “Вы ўжо заплацілі мне наперад на судзе ў Глыбокім”. Пасварыўшыся з ксяндзом, ён па суду павінен быў заплаціць 50 злотых штрафу. Але ж ён нідзе не быў на дзяржаўнай пасадзе. Лякарня была ўласнасцю Смольскай, а тая сказала, што доктар выбраў у яе зарплату за тры гады наперад, і, калі ў лякарні было шмат наведвальнікаў і прызначана была тэрміновая аперацыя, доктар , скруціўшы падушку і коўдру, адправіўся ў гмінную каталажку. Хворыя ўзнялі сапраўдны бунт, а сям’я хворага панка некалькі разоў тэлефанавала павятоваму старасту, каб выпусцілі доктара, каб ён ўратаваў жыццё іхняму хвораму. Праз паўгадзіны доктар ужо быў у сваёй лякарні.

Вельмі любіў кветкі, ён вырошчваў розныя гатуткі іх. Кожную суботу хадзіў у кагальную лазню і браў з сабою некалькі куфляў піва, каб пачаставаць мястачкоўцаў. У доктара былі добрыя стасункі з прадстаўнікамі ўсіх канфесій. Незвычайны быў Усевалад Шыран з выгляду: высокага росту і даволі тоўсты, з твару ён быў падобны на мангола, толькі што валасы ў яго круціліся не па-мангольску. Зімой і ўлетку хадзіў без шапкі і ў расшпіленым плашчы, а таксама ніколі не ўжываў рукавіцаў. Сваёй вопратцы не прыдаваў вялікага значэння…

Пасля доўгіх і безвыніковых пошукаў у Лужках фотаздымка Усевалада Шырана, вырашыла звярнуцца з просьбай да прафесара Майсяёнка Андрэя Георгіевіча, які заўжды дапамагаў мне у маёй краязнаўчай справе. Ён і даслаў па інтэрнэту так патрэбны мне фотаздымак.

І вось Шыран дачакаўся 1939 года і «освобождения». Як і шмат хто з іншай нашай інтэлегенцыі з радасцю сустрэў «вызваліцеляў», прычапіўшы да грудзей чырвоную стужку, затэлефанаваў у мясцовыя казармы КОП,* патрабаваў безагаворачнай капітуляцыі.

Зацверазенне прыйшло вельмі хутка. Амаль праз некалькі тыдняў ён ужо быў не «чырвоным» і, нават, не «ружовым». Шыран зразумеў, што дзясяткі гадоў змагаўся супраць ілжы і аблуды, і што цяпер пачынаецца эра аблуды, якая ў квадрацэ перавышае польскую. Ён неяк адразу пастарэў, страціў гумар і ветлівасць. Ён з галавой аддаўся працы і апрача яе яго нічога не цікавіла.

У Гарадцы ён развярнуў разам з жонкай узорны стацыянар на сто ложкаў, куды прывёз сваё ўласнае медыцынскае абсталяванне. У той час не хапала медыцынскіх кадраў, і Шыран арганізаваў курсы медыцынскіх сясцёр. Загадкай было тое, што доктара Шырана не арыштавалі адразу, як гэта сталася з лепшымі людзьмі Беларусі. Напэўна, вялікая яго папулярнасць сярод насельніцтва не дазваляла “вызваліцелям” адразу паказаць сваё звярынае нутро.

Арыштавалі яго ў пачатку вайны. Апынуўся ў Беразвечы. Лукішкі былі раем супраць Беразвечча, дзе катаванню не было мяжы. Арыштаваных не толькі білі, але і адразалі языкі, здзіралі шкуру з падэшваў ног, замуроўвалі ў сцяну, расстрэльвалі.

Перад прыходам немцаў у Глыбокае тых, хто застаўся ў жывых, пастроілі ў калону і пагналі на Усход. Разам з Шыранам у калоне арыштантаў кавіняў інвалід доктар Гушча. Арыштаваных гналі праз населеныя пункты. І ўсюды выбягалі на дарогу жанчыны, яны ведалі, што іх выратавальнікаў вядуць на смерць. Яны галасілі, прасілі аддаць ім дактароў, але канвой быў няўмольны Пад Улай на калону наляцелі нямецкія самалёты, і прыцэльным агнём сталі знішчаць канваіраў у чырвоных шапках. Тут паступіла каманда: усіх арыштаваных расстраляць.

Так загінуў слынны сын беларускага народа,таленавіты доктар, цікавы паэт, шчыры чалавек, сапраўдны беларус Усевалад Шыран.

*КОП – Корпус Аховы Пагранічча (Korpus Ochrony Pogranicza)

## А Шыран з Лужак вылечыў!

**Вера Крывёнак**:

– Былі тры вядомыя дактары: Шыран – у Лужках, Гушча – у Патупах, і Пулікоўскі – у Глыбокім. Пулікоўскага дом, такі чырвоны, і цяпер стаіць побач з рэстаранам.

Малая я тады была, гадоў дзесяць, але памятаю: я і мама мая лячыліся ў Шырана. Дужа ж гэткі добры доктар быў! Маму ніводны доктар не мог вылечыць… А Шыран з Лужак вылечыў! І ніхто не думаў! Во, які ўрач быў! Ёй вельмі кепска было, яна ўжо ад розуму адыходзіла – зусім! Запёртая была ў свіране, трое сутак там трымалі. Баяліся, што збегчы можа. Яна грукалася, дзёрла ў дзверы, а ёй – ніхто не адчыняў. І Шыран сказаў: “Няхай запёртая будзе!”



**Вера Крывёнак** (народжаная Стахоўская), 1918 г.нр., жыхарка вёскі Мікуліна на Узрэччыне.

Пададуць ёй толькі вады ў кубку, але і гэтую ваду яна вылівала… Крый Божа, што рабілася! Ніхто не мог вылечыць! Ну, во, слава Богу, Шыран яе толькі і вылечыў!

Шыран, Гушча, Пулікоўскі – былі. І ўсё! Шырана, памятаю…

***Уладзімір Скрабатун.***

Запісана у красавіку 2010 г.

# Падчас выбуху ў метро загінуў сын алімпійскага прызёра

**Сын бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў у кіданні дыска Васіля Капцюха, па паведамленні БЕЛТА, загінуў падчас выбуху ў мінскім метро.**

21-гадовы Раман Капцюх апынуўся сярод 12 загінулых падчас выбуху, які адбыўся 11 красавіка 2011 года.

Беларуская федэрацыя лёгкай атлетыкі і нацыянальная каманда выказваюць спачуванні сям'і Васіля Капцюха і ўсім сем'ям загінулых.

Па стане на 02.30 12 красавіка лік загінулых падчас падрыву неўсталяванай выбуховай прылады 11 красавіка ў 17.55 на станцыі метро «Кастрычніцкая» ў Мінску склала 12 чалавек. Акрамя таго, 149 чалавек звярнуліся ва ўстановы аховы здароўя за медыцынскай дапамогай (з іх 22 у цяжкім стане, 30 - з траўмамі сярэдняй ступені цяжару). Па экспертных адзнаках, магутнасць выбуховай прылады эквівалентная 5 кг трацілу. Выбуховая прылада, якая змяшчае сечаную арматуру, цвікі 80х8мм і металічныя шарыкі дыяметрам каля 15 мм, была ўсталяваная каля лаўкі, размешчанай на платформе.

# Тэракт у Мінску



Кіраўнік МУС Анатоль Куляшоў ужо паведаміў, што складзеныя фотаробаты двух падазраваных у страшным выбуху ў мінскім метрапалітэне. Па дадзеных экспертаў, выбуховая прылада была самаробнай і, верагодна, радыёкіруемай. Магутнасць выбуху склала 5-7 кілаграмаў у тратылавым эквіваленце.

«З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што гэта была радыёкіруемая прылада», – сказаў міністр.

Па словах міністра, на станцыі спрацавала самаробная выбуховая прылада, начыненая металічнымі шарыкамі, арматурай і цвікамі. «Яна была накіравана на максімальны паражаючы эфект», – падкрэсліў А. Куляшоў.

Кіраўнік МУС паведаміў, што разглядаецца шмат версій таго, што адбылося – «як знешнія, так і ўнутраныя». Адна з версій, па словах А. Куляшова, звязаная з выбухам у Мінску ў ноч на 4 ліпеня 2008 года. Тады на святкаванні Дня незалежнасці было прыведзена ў дзеянне выбуховая прылада, аднак ахвяр атрымалася пазбегнуць. Гэта злачынства не было раскрытае, нягледзячы на намаганні беларускіх праваахоўных органаў.

Міліцыя таксама звярнулася за дапамогай у раскрыцці гэтага злачынства да ўсіх відавочцаў:

Паводле апошніх звестак, загінулі 12 чалавек. 151 чалавек атрымаў траўмы і раненні рознай ступені. Аб гэтым паведаміў сёння журналістам міністр аховы здароўя Беларусі Васіль Жарко.

Па словах міністра, стан 40 пацярпелых ацэньваецца як цяжкі, 58 – сярэдняй цяжкасці, астатнія – бліжэй да здавальняючага. «Сярод пацярпелых ёсць 3 цяжарныя жанчыны, а таксама дзіця 2009 года нараджэння. Іх стан ацэньваецца як бліжэй да здавальняючага», – сказаў Васіль Жарко.

Увечары 11 красавіка дапамогу пацярпелым у выніку выбуху ў мінскім метро аказвалі 98 машын хуткай медыцынскай дапамогі. Пацярпелыя былі дастаўленыя ў 15 лячэбных установаў горада. «Усім, каму неабходна, былі праведзены аператыўныя ўмяшальніцтвы. Удзел у аказанні дапамогі пацярпелым прымалі таксама прафесарска-выкладчыцкі склад БелМАПА і БДМУ», – сказаў міністр.

З пацярпелымі і іх сваякамі працуюць больш за 20 псіхолагаў. Акрамя таго, адзначыў Васіль Жарко, ва ўстановах аховы здароўя ёсць увесь неабходны запас медыкаментаў, клінікі поўнасцю забяспечаны донарскай крывёй і медабсталяваннем.

## Сем'і загінулых пры тэракце атрымаюць кампенсаванні па $10 тысяч

**Сем'і загінулых у выніку тэракту ў Мінску атрымаюць па 10 тысяч даляраў, заявіў мэр горада Мікалай Ладуцька журналістам у аўторак.**

«Будзе аказана дапамога каля 10 тысяч даляраў сем'ям загінулых», – сказаў Ладуцька.

Па яго словах, пацярпелыя таксама атрымаюць кампенсаванні і іншую дапамогу, передае «РІА Навіны».

«Сёння ж ва ўсіх сваякоў загінулых будуць нашы супрацоўнікі, працаўнікі сацыяльных службаў, псіхолагі», – дадаў кіраўнік горада.

Пахаванні загінулых пачнуцца ў сераду, паведаміў Ладуцька.

## У Мінску да канца тыдня адменены ўсе забаўляльныя мерапрыемствы

**12 красавіка на большасці будынкаў Мінска былі вывешаныя прыспушчаныя дзяржаўныя сцягі з жалобнымі стужкамі.**

Серада, 13 красавіка, стане днём жалобы па загінулых у выніку выбуху ў метро на станцыі «Кастрычніцкая».

– Да канца тыдня ў горадзе не павінны праводзіцца забаўляльныя мерапрыемствы, - заявіў мэр Мінска Мікалай Ладуцька.

Таксама будзе перагледжаны рэпертуар тэатраў, да канца тыдня не будуць праводзіць ніякіх масавых святочных мерапрыемстваў, піша «Камсамольская праўда».



Фота Кастуся Бахіра, 11.04.2011 г.

## Нарушова патанае ў гразі

Не дзіва, што моладзь цураецца вёскі. Не хоча пасля атрымання адукацыі вяртацца дадому. І куды вяртацца! У гэтую гразь? Ні добра апрануцца, каб выйсці ў людзі, ні выехаць з двара, калі маеш уласнае аўта. Фуфайка і гумовыя боты – наканаваныя пажыццёва!

Шкада, вымірае нашая беларуская вёска, вымiраюць беларусы...



Фота Кастуся Бахіра, 11.04.2011 г.

## Спевы кс. Віктара Місевіча, Святланы Трапук, Марыі Новікавай увайшлі ў зборнік «Сто бардаў свабоды»

■ Кастусь Шыталь

31 сакавіка ў Мінску быў прэзентаваны мультымедыйны дыск «Сто бардаў свабоды». У зборнік, які выдадзены беларускай службай "Радыё Свабода", увайшлі спевы ста беларускіх бардаў. Тут ёсць і вельмі вядомыя асобы – Лявон Вольскі, Віктар Шалкевіч, Вольжына Цярэшчанка, Андрэй Хадановіч, Зміцер Бартосік – і вядомыя не вельмі шырокаму колу людзей выканаўцы.

Сярод выканаўцаў, творы якіх прадстаўлены на дыску, ёсць людзі з нашага рэгіёна. Гэта каталіцкі святар Віктар Місевіч, які раней служыў у Глыбокім, студэнтка з Глыбокага Святлана Трапук і ўражэнка Падсвілля Марыя Новікава.

Творчасць кожнага з іх прадстаўлена пяцю спевамі і кароткім інтэрв'ю. Барды распавядаюць пра свой шлях да беларускасці, пра веру, пра жыццё.




«Мая беларушчына з сям'і. Я ўдзячны Богу, што пазнаў беларускую мову не з падручнікаў, а найперш з вуснаў маці», – распавядае ў інтэрв'ю святар Віктар Місевіч.

"Цяга да беларускай мовы з'явілася тады, калі ў нашым касцёле службы пачалі праводзіцца на беларускай мове. Святары і сёстры законныя пачалі размаўляць па-беларуску і гэтым заахвоцілі дзяцей", – кажа Святлана Трапук.

«Касцёл – тое месца, якім я жыву. Менавіта ў касцёле я першы раз адчула прысутнасць Бога – нічым гэта не перадаць. Я адчуваю Яго дзеянне ў жыцці, бачу знакі прысутнасці Бога», – расказвае Марыя Новікава, дачка падсвільскай паэткі Марыі Баравік, арганістка Чырвонага касцёла ў Мінску.

Дыск «Сто бардаў свабоды» можна атрымаць бясплатна па пошце. Для гэтага неабходна даслаць заяўку на электронны адрас rferl.minsk@gmail.com, пазначыўшы ў ёй свой паштовы адрас. Заяўку можна даслаць звычайнай поштай па адрасе: 220005, Мінск-5, паштовая скрынка 111, з пазнакай "Сто бардаў свабоды". Спампаваць аўдыёфайлы твораў можна і з сайту svaboda.org.

Увага! Акцыя!

# Тыдзень лесу - 2011 у ДЛГУ «Дзвінская эксперыментальная лясная база ІЛ НАН Беларусі».

■ Семеж В.П., *інжынер па лесааднаўленні.*

З 16 па 23 красавіка ў Беларусі па ініцыятыве Міністэрства лясной гаспадаркі пройдзе добраахвотная акцыя «Тыдзень лесу - 2011», прысвечаная Міжнароднаму году лясоў. У рамках правядзення «Тыдня лесу» ў ДЛГУ «Дзвінскай эксперыментальнай лясной базе ІЛ НАНБ» будзе арганізавана пасадка лясных культур на плошчы 17 га, праведзена дапаўненне лясных культур на плошчы 50 га. Для гэтых мэт у гадавальніку лясной базы неабходна выкапаць 120 тысяч штук сеянцаў і саджанцаў сасны і яліны. Акрамя таго, у гэтыя дні плануюцца ачыстка лесу ад захламленасці на плошчы 9 га, рамонт месцаў адпачынку, агароджванне мурашнікаў, добраўпарадкаванне тэрыторый лясніцтваў і прыдарожных палос. Для стварэння лясоў будучыні будзе закладзена прышчэпленым пасадкавым матэрыялам лесанасенная плантацыя другога пакалення, з мэтай нарыхтоўкі насення з палепшанай спадчыннасцю.

Прыняць удзел у акцыі запрашаюцца ўсе ахвотныя. Для іх будзе арганізавана экскурсія ў музей і школьнае лясніцтва, якія створаныя на базе Прошкаўскага лясніцтва. Тыя, хто выявіў жаданне прыняць удзел у «Тыдні лесу», могуць звяртацца ў канторы Падсвільскага, Прошкаўскага і Псуеўскага лясніцтваў, а таксама ў цэнтральную кантору ДЛГУ «Дзвінскай эксперыментальнай лясной базы ІЛ НАНБ». Тут яны будуць забяспечаны транспартам, пасадкавым матэрыялам і неабходным інвентаром. На працягу тыдня лесаводы будуць супрацоўнічаць са школьнікамі і моладдзю, распавядаць ім пра значэнне лясоў для нашай краіны.

Галоўнымі мэтамі Міжнароднага года лясоў і «Тыдня лесу – 2011» з'яўляецца прыцягненне грамадскасці да значнасці лясных рэсурсаў у забеспячэнні эканамічнай, экалагічнай і харчовай бяспекі краін.

Удзел у «Тыдні лесу» прадстаўляе магчымасць бліжэй пазнаёміцца з лясной гаспадаркай, пазнаць, як ствараюцца і захоўваюцца нашы лясы, а таксама ўнесці непасрэдны ўнёсак у прымнажэнне лясных багаццяў роднага краю.

# Ажывае прырода, ажываюць і браканьеры

■ А.В. Протас, *начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Вясна павольна, але ўпэўнена ўступае ў свае правы. Усё прачынаецца, ажывае, прыляцелі птушкі і пачынаюць будаваць гнёзды.**

Для аматараў рыбалкі знятая забарона на лоўлю шчупака, але лавіць можна толькі з берага адной вудай ці спінінгам, абсталяваным штучнай насадкай, лоўля шчупака на жыўца забароненая.

Ажывае прырода, ажываюць і браканьеры. Нягледзячы на ўсе забароны, строгія меры адказнасці, аж да крымінальнага перasледу



расследу супрацоўнікі інспекцыі штотыдзень затрымоўваюць грамадзян за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства, гэта незаконная здабыча рыбы восцямі, сеткамі, мярожамі, незаконнае паляванне з незарэгістраванай стрэльбай. На жаль, парушальнікаў менш не становіцца, а таму да іх будуць ужывацца самыя жорсткія меры адказнасці.

У перыяд з 1 па 8 красавіка супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі за парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства затрымана 7 чалавек, у тым ліку 5 за парушэнне Правіл рыбалоўства, 2 за парушэнне Правіл палявання. У перыяд нерасту рыбы велізарную дапамогу міжраённай інспекцыі ў спыненні браканьерства аказваюць супрацоўнікі міліцыі. Так, 9 красавіка 2011 года нарад ДПС АДАІ Глыбоцкага РАУС спыніў для праверкі аўтамашыну Форд пад кіраваннем грамадзяніна С, жыхара г. Глыбокае і выявіў у багажніку забароненыя прылады рыбалоўства – лесачную сетку і сетны экран. Неадкладна была выкліканая рэйдавая група міжрайінспекцыі, на парушальніка складзены адміністрацыйны пратакол, які накіраваны ў раённы суд.

Вельмі часта парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства становяцца грамадзяне, якія па роду сваёй дзейнасці павінны быць самымі заўзятымі супернікамі браканьерства, паляўнічыя. Праводзячы паляванне на гусака ці качку, паляўнічыя незаконна здабываюць шчупака, які нерастуе, не думаючы пра наступствы сваіх дзеянняў, а наступствы чакаюць парушальніка сур'ёзныя. Штраф да 50 базавых велічынь, пазбаўленне спецыяльнага права, права палявання, канфіскацыя агнястрэльнай зброі.

Такія факты незаконных паляванняў ужо выяўлены супрацоўнікамі інспекцыі, і парушальнікі чакаюць пакарання, заклікаючы інспектараў да літасці, але чаму парушальнікі раней не думалі пра наступствы сваіх незаконных дзеянняў.

Можна шмат прыводзіць прыкладаў варварскага стаўлення да нашай прыроды, толькі толку ад гэтага мала, чалавек сам павінен зразумець, што ад нас саміх залежыць чысціня азёр, рэк, берагоў, наяўнасці ў іх рыбы і жывёл у лясах.

Паглядзіце на берагі нашых азёр, у вадзе плаваюць бутэлькі, смецце, пакінутыя на лёдзе рыбакамі і берагах, а што робяць «людзі-варвары» ў нашых лясах, альтанкі, пабудаваныя работнікамі лясгасаў і арганізацый, разламаныя, кінутыя ў вогнішчы, вакол смецце, бутэлькі, здаецца, што мы зусім не далёка адышлі ад першабытных людзей. Грамадзяне (дзікуны), затрыманыя за выкід смецця і пашкоджанне альтанак, будуць караццa самым строгім чынам, аж да крымінальнай адказнасці.

Добра сказаў Бярнард Шоў: «Калі мы навучыліся лётаць па паветры, як птушкі, і плаваць пад вадой, як рыбы, нам застаецца толькі адно: навучыцца жыць на зямлі як людзі».

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: «гарачая лінія» – 2-86-70, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

# Віншаванкі

*Вольгу Венедзіктаўну Мажэйка*

**Віншуем з 50-годдзем!**



Прожито много разных дней,
Дней горьких, радостных, счастливых,
И вот настал твой юбилей –
Один из самых дней красивых.
Пусть эта замечательная дата
В твоей душе оставит добрый след.
Желаем мы всего, чем жизнь богата:
Здоровья, счастья, долгих лет.

*Калектыў Райпаліўзбыта*

*Альбіна Альбінавіча Керзяёнка*

**Віншуем з 55-годдзем!**



Сегодня, в торжественный день, в День рожденья,
Здоровья желаем и жить не старея,
Побольше Вам радостей, меньше печали,
А беды, чтоб к вам, никогда не стучали.
Будь здоровым всегда, не грусти никогда,
И с таким настроеньем проживи лет до ста!

*Хрэсніца Веранiка і яе сям'я*

*Алу Іосіфаўну Стахоўскую*

**Віншуем з юбілеем!**

Долголетия, здоровья, всех радостей жизни, любви близких и родных, безграничное море счастья. Удачи во всём!

*Іра Гарбачова.*

*Альбіна Альбінавіча Керзяёнка*

**Віншуем з 55-годдзем!**



Пускай здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым!
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным!
Спешим поздравить с днем рожденья!
Желаем счастья, настроенья,
Успеха, бодрости, удачи,
Здоровья крепкого в придачу.

*Пляменніца Наталля і яе сям'я*

# Самыя танныя цыгарэты падаражэюць да 10 тысяч рублёў

**Расія ставіць задачу ў 11 разоў узняць акцызы на тытунь у краінах Мытнага саюза. Самы танны пачак цыгарэт у Мытным саюзе ў 2015 годзе будзе каштаваць 3 даляры. Цяпер у Беларусі «Астра» каштуе 600 рублёў, «Мінск» — трохі больш за тысячу.**

Міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын афіцыйна пацвердзіў план расійскага ўрада падвысіць у 2012 годзе акцызы на тытунь на 60%, а не на 30%, як меркавалася раней.

«Цяпер мы знаходзімся на ўзроўні 270 рублёў [30 000 беларускіх рублёў] за тысячу цыгарэт. Нам трэба выйсці на ўзровень 3 тысячы рублёў [330 000 беларускіх рублёў] за тысячу цыгарэт да 2015 года. Гэта істотны рост, таму мы ў бліжэйшыя гады плануем паскорана ісці па шляху павышэння акцызаў», – заявіў Кудрын, выступаючы ў Дзярждуме Расіі.

Да 2014 года памер акцыза на тытунь дасягне 1,5–2 тысяч расійскіх рублёў за тысячу цыгарэт, дадаў міністр фінансаў. Падвысіўшы ў 2012 годзе акцызы на тытунь на 60%, Расія мае намер затым рухацца да яшчэ больш значнага павелічэння. «Калі рост акцызаў на тытунь адбываецца тэмпам 50%, гэта, вядома, мяняе паводзіны курцоў і прадпрыемстваў, якія плануюць свае вытворчыя магутнасці, таму, я думаю, нам нельга адразу патройваць акцыз, але трэба ісці тэмпам 50–70%», – мяркуе Кудрын.

Па словах міністра фінансаў, Расія «будзе працаваць з партнёрамі па Мытным саюзе» ў пытанні павышэння тытунёвых акцызаў, «тым больш што, напрыклад, Беларусі для зніжэння дэфіцыту свайго бюджэту патрэбныя дадатковыя сродкі», – растлумачыў чыноўнік.

Рашэнне аб павышэнні акцызаў будзе прымацца Камісіяй Мытнага саюза, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх трох дзяржаў.




Пры такім росце акцызаў у 2015 годзе цана самага таннага пачка цыгарэт у рознiцы дасягне эквіваленту трох даляраў. На сёння гэта каля 10 тысяч рублёў. Цяпер у Беларусі «Астра» беларускай вытворчасці каштуе 600 рублёў, «Мінск» з фільтрам – трохі больш за тысячу. У Беларусі курыць каля чатырох мільёнаў чалавек.

Акцызы на тытунь у краінах ЕС нашмат вышэйшыя, чым у Беларусі. Так дзяржавы змагаюцца супраць шкоднай для здароўя звычкі і папаўняюць бюджэт.

# Ïàñëóã³ ÆÊÃ ñ¸ëåòà ìîãóöü ïàäàðàæýöü ÿø÷ý íà 5–7 äîëàðà¢

**Урад Беларусі не выключае магчымасці яшчэ аднаго павелічэння кошту паслуг ЖКГ у гэтым годзе. "Думаю, сёлета яны павялічацца на 5–7 долараў,хаця не выключана, што гэтае павелічэнне будзе меншым", – заявіў віцэ-прэм'ер Беларусі Анатоль Калінін на брыфінгу ў Мінску 8 красавіка. Пра гэта паведамляе прэс-служба ўрада.**

■ Марына Носава, БелаПАН

Калінін нагадаў, што ў лютым гэтага года ўжо адбылося павелічэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ на 5 долараў, у тым ліку 4 долары забяспечыў прырост кошту паслуг па лініі Мінэнерга, 1 долар па ўсіх астатніх паслугах ЖКГ.

"Зараз прапрацоўваецца пытанне нязначнага, але павелічэння тарыфаў. Гэта пытанне актыўна абмяркоўваецца і з'яўляецца дастаткова далікатным", - зазначыў намеснік прэм'-ер-міністра. Паводле яго слоў, кіраўнік дзяржавы ў вырашэнні гэтага пытання запатрабаваў ад урада прадаставіць звесткі аб тым, на колькі зніжаюцца затраты ЖКГ, у тым ліку па энергетычным складніку, на колькі магчыма павышэнне тарыфаў для насельніцтва. "Кіраўнік дзяржавы ідзе неахвотна на такое павышэнне, але ўсё-такі для павелічэння тарыфаў падставы ёсць", - сказаў Калінін.

Нагадаем, раней Лукашэнка даручаў не ўзнімаць тарыфы на ЖКГ больш, чым на 5 долараў у год.

Віцэ-прэм'ер растлумачыў, што зараз узровень аплаты насельніцтвам тарыфаў ЖКГ застаецца дастаткова нізкім. Так, паводле яго слоў, у сярэднім сям'я з трох чалавек пры двух працуючых, якія атрымліваюць сярэднюю заработную плату па рэспубліцы, з сямейнага бюджэту на аплату паслуг ЖКГ траціць прыкладна 5,8%; сям'я з трох чалавек пры двух працуючых у бюджэтнай сферы 7,5%, сям'я з двух пенсіянераў, якія жывуць у двухпакаёвай кватэры, 12%, сказаў намеснік прэм'ер-міністра.

Паводле слоў Калініна, менш абароненыя слаі грамадзян маюць патрэбу ў падтрымцы з боку дзяржавы. У сувязі з гэтым урад абмяркоўвае пытанне аб павышэнні пенсій.

"У любым выпадку, тарыфы будуць павялічаны, але яны будуць кантралявацца, абмяркоўвацца з усіх бакоў. Разам з гэтым будуць павышацца і пенсіі. Пры гэтым пенсіі будуць павышацца загадзя, а затым ужо будуць павялічвацца тарыфы на паслугі ЖКГ. Гэтыя пытанні зараз абмяркоўваюцца ва ўрадзе, у Міністэрстве эканомікі", - падкрэсліў віцэ-прэм'ер.

Ён таксама мяркуе, што ў сферы ЖКГ неабходна ўзмацніць адрасную сацыяльную дапамогу грамадзянам з менш абароненых слаёў насельніцтва. Пры гэтым падыходы да аказання такой дапамогі ўрадам будуць карэктавацца.

Паводле інфармацыі Калініна, сёння сістэма ЖКГ Беларусі паступова пераходзіць на новыя формы абслугоўвання жылога фонду. У сферы аказання паслуг ЖКГ працуюць больш як 15 прыватных арганізацый. "Яны бяруць жыллё і эксплуатуюць яго самі, але без усякага пераксрыжаванага субсідавання", - зазначыў віцэ-прэм'ер і растлумачыў, што ў асноўным гэта тычыцца элітнага жылля. "Ёсць новыя формы абслугоўвання ў сферы ЖКГ, але, на жаль, пакуль іх недастаткова", - мяркуе намеснік прэм'ер-міністра. Так, сёння ў рэспубліцы функцыянуюць каля 860 таварыстваў уласнікаў, у тым ліку 340 з іх утрымліваюць жыллё самастойна. Акрамя таго, створана больш за 5 тыс. ЖБК, пры гэтым 40% такіх дамоў абслугоўваецца самастойна, астатняя частка жыллёвымі арганізацыямі.

Калінін прызнаў, што ў дзяржсектары абслугоўваючых арганізацый ЖКГ ёсць свае перавагі і свае праблемы ў параўнанні з прыватнымі арганізацыямі. "Таму зараз мы параўноўваем і хочам увесці канкурэнцыю ў сферы паслуг ЖКГ", - сказаў ён. У сувязі з гэтым у кожнай вобласці будуць выбраны па два-тры гарады, дзе "будуць выстаўляцца паслугі ЖКГ на конкурс", - дадаў Анатоль Калінін. Пры гэтым дзяржава будзе ажыццяўляць кантроль за якасцю паслуг. "Астатняе гэтыя арганізацыі будуць рабіць самі, будуць фарміраваць сваю палітыку самастойна", - растлумачыў намеснік прэм'ер-міністра.

Калінін прызнаў, што ў сферы ЖКГ, асабліва ў частцы капітальнага рамонту, ёсць пэўныя праблемы, галоўнымі прычынамі якіх з'яўляюцца "недарамонт, недафінансаванне". Штогод у Беларусі павінна рамантавацца 4 5% усяго жылля, на практыцы ж рамантуецца да 1,5%. "Адпаведна гэта ўсё збіраецца, наслойваецца і вырастае ў праблемы", - заўважыў віцэ-прэм'ер. Пры гэтым ён падкрэсліў, што ўрад надае сур'ёзную ўвагу пытанням капрамонту, кантралюючы тэрміны і якасць рамонтных работ. "Мы стараемся змяніць сітуацыю ў лепшы бок, і ўжо ў хуткім часе па якасці і тэрмінах рамонту навядзем парадак", - сказаў Калінін.

# Ì³í³ñòýðñòâà ãàíäëþ Áåëàðóñ³ àáâÿðãàå ÷óòê³ ïðà ïàâûøýííå öýí íà öóêàð ³ àëåé

■ Марына Носава, БелаПАН

**"Ніякага павышэння цэн на цукар і алей не плануецца", - заявіла БелаПАН начальнік упраўлення арганізацыі спажывецкага рынку харчовых тавараў Міністэрства гандлю Любоў Язэпчык.**

Паводле яе слоў, запасаў гэтых прадуктаў "у гандлі дастаткова для рытмічнага забеспячэння ўнутранага рынку".

«Рэсурсаў столькі, што калі нават цукровыя заводы спыняцца, запасы цукру можна будзе прадаваць на працягу 10 месяцаў», - падкрэсліла Язэпчык. Паводле яе слоў, запасаў алею хопіць на 2,5 месяца бесперабойнай працы. Акрамя таго, пастаянна ажыццяўляюцца імпартныя закупкі. "Чуткі пра нібыта будучае павышэнне цэн на гэтыя прадукты харчавання выклікалі ажыятажны попыт, і людзі пачалі скупліваць вялікімі аб'ёмамі цукар і алей", - расказала прадстаўнік Мінгандлю.

Язэпчык падкрэсліла, што міністэрства праводзіць маніторынг сітуацыі і гатова забяспечыць патрэбнасці насельніцтва ў гэтых прадуктах. У бліжэйшыя выхадныя дні будуць працаваць аптовыя базы "Мінскбакалея" і "Белбакалея" для выканання заявак гандлёвых арганізацый.

Паводле даных канцэрна "Белдзяржхарчпрам", на 1 красавіка запасы цукру на складах арганізацый цукровай галіны складаюць 180 тысяч тон, што "дастаткова для забеспячэння патрэбаў унутранага рынку рэспублікі цукрам да сезона перапрацоўкі цукровых буракоў ураджаю 2011 года". Арганізацыі цукровай галіны краіны ў 2010 годзе выраблілі 816,85 тыс. тон цукру-пяску, ці 107,6% да ўзроўню 2009 года. З агульнага аб'ёму рэалізацыі прадпрыемствамі цукровай галіны на ўнутраны рынак пастаўлена 405,8 тыс. тон. Цяпер Беларусі для патрэбаў рынку і прамысловай перапрацоўкі неабходна каля 350 тыс. тон цукру за год. У канцэрне таксама заявілі, што росту цэн на цукар найбліжэйшым часам не будзе. Язэпчык нагадала, што аналагічная сітуацыя з ростам цэн на алей у Беларусі ўжо была некалькі гадоў таму, калі да сезона нарыхтовак цэны на алей павялічыліся амаль у два разы. "Потым у сувязі з наступленнем алейнага насення сланечніка новага ўраджаю, сітуацыя стабілізавалася, і цэны на алей зноў сталі ніжэйшыя", - сказала яна. Паводле слоў спецыяліста, сёння імпарцёры запэўніваюць, што ў гэтым сегменце рынку рэзкіх ваганняў цэн пакуль не прадбачыцца.

# ×àðî¢íû íàïîé äëÿ ïàõóäàííÿ



**На якія толькі выкрунтасы не ідзём мы, жанчыны, у пагоні за стройнай постаццю. Дыеты, Бады, спартзалы, паслугі касметолагаў і нават пластычных хірургаў. Мы марнуем грошы, выдаткоўваем час, ахвяруем сваім здароўем, не заўсёды атрымліваючы жаданы вынік. Тады як простыя і даступныя спосабы скінуць вагу практычна ўвесь час знаходзяцца ў нас пад рукой. Сёння хачу пагаварыць пра адзін такі прадукт, які валодае мноствам добрых якасцяў, практычна не маючы недахопаў. Ён недарагі, смачны, пажыўны, яго не складана дастаць, ён спрыяе пахуданню і, самае галоўнае, ён вельмі карысны. Гаворка пойдзе пра кефір.**

■ **Наталля Раманава**

Гэты выдатны кісламалочны напой прыйшоў да нас з Каўказа.

Ёсць нават легенда, што асяцінскія князі доўгі час захоўвалі рэцэпт вырабу напоя ў глыбокай таямніцы. Пакуль аднойчы адзін з іх не патрапіў у рускую турму за выкраданне дзяўчыны і быў адпушчаны толькі ў абмен на 10 фунтаў закваскі для кефіру.

Кефір валодае мноствам карысных уласцівасцяў. Першым чынам, ён паляпшае абмен рэчываў і хутка выводзіць з арганізма ўсе шлакі. Кефір фармуе здаровую мікрафлору кішэчніка. Ён цалкам здольны перамагчы дысбактэрыёз пасля прыёму антыбіётыкаў, а таксама прадухіліць развіццё кішэчнай інфекцыі. Вельмі цікава тое, што свежы, аднадзённы кефір хутка вырашае праблему запору, а вось моцны, трохдзённы, насупраць, здольны супакоіць кішэчнік.

Гэты напой валодае яшчэ і мачагонным сродкам, адначасова з вадкасцю выганяючы з арганізма і солі, прадухіляючы з'яўленне ацёчнасці.

Кефір дабратворна ўплывае на сардэчна-сасудзістую сістэму, ныркі і печань. Ён выдатны антыдэпрэсант і імунастымулятар, валодае супрацьвіруснымі ўласцівасцямі. Рэгулярнае яго ўжыванне цалкам здольна абараніць арганізм ад грыпу і прастуды.

Вось колькі добрых якасцяў у такога штодзённага напоя! Але самае галоўнае для тых, хто марыць схуднець, тое, што ён дапамагае яшчэ і пазбавіцца ад лішняй вагі. Прычым робіць гэта без шкоды для здароўя і цвёрдых абмежаванняў у ежы. Досыць рэгулярна выпіваць кожны дзень шклянку кефіру на сняданак і перад сном, дапоўніўшы яго зялёным яблыкам, і вага паступова пачне памяншацца. Ну, а для тых, хто жадае паскорыць працэс, існуе велізарная колькасць кефірных дыет. Вось некалькі.

Цікавая **"Паласатая дыета".** Плюс яе ў тым, што яна лёгка пераносіцца і досыць дзейсная. Сэнс гэтай дыеты ў сталым чаргаванні двух дзён.

1-ы дзень - кефір 1% тлустасці ў любой колькасці.

2-і дзень - любыя прадукты (у межах разумнага, вядома).

Добрая дыета **"Для прыгажосці".** Яна чысціць арганізм, паляпшае стан скуры, пазбаўляе ад стомленасці і ўздымае настрой.

Сняданак: шклянка чаю, кавалачак сыра, свежыя ягады.

Абед: нятлустае мяса з гароднінай, агародніная салата з аліўкавым маслам.

Падвячорак: адно яйка, салата з гародніны, запраўленая лімонным сокам, шклянка кефіру.

Вячэра: 200 г поснай рыбы, тушанай з гароднінай.

Цукар неабходна выключыць, замест яго дазваляецца мёд. Працягласць 5-7 дзён.

Гэты чароўны напой добры для разгрузных дзён. Самы просты варыянт - выпіваць на працягу сутак да 1,5 л кефіру. Добра ўладкоўваць такія разгрузкі раз у 2-3 тыдні. Такім чынам можна пазбавіцца на працягу 3 месяцаў ад трох кілаграм лішняй вагі, не прычыняючы шкоды свайму здароўю. У разгрузачныя дні кефір можна піць асобна, ці дапаўняць іншымі прадуктамі. Так атрымліваюцца кефірна-яблычныя, кефірна-тваражныя, кефірна-агародніннія дыеты.

І, напрыканцы, жадаю падзяліцца з вамі рэцэптам **"Тлушчаспальваючага кактэйлю".** У шклянку кефіру (тлустасць 0,1-2,5%) дадаецца палова сталовай лыжкі карыцы, гэтулькі ж імбіра і дробка чырвонага перцу. Змешваецца. Рэкамендуецца выпіваць з раніцы і перад сном. Рэгулярнае ўжыванне на працягу месяца дапаможа пазбавіцца ад 3-4 кг вагі.

У чым складаецца дзеянне гэтага кактэйлю? Ён паскарае абмен рэчываў і выводзіць лішкі прадуктаў з арганізма. Асабліва рэкамендуецца пасля багатага застолля.

Карыца чысціць арганізм ад таксінаў і шлакаў, уздзейнічае дабратворна на працу ЖКТ і нырак. Таму ў спалучэнні з кефірам атрымліваецца выдатны вынік.

Вось колькі магчымасцяў для пахудання дае нам такі штодзённы на першы погляд напой. Піце кефір, худнейце і бывайце здаровы!

## ІМЯНІНЫ

**14 красавіка**
**Пр.:** Марыі, Абрама, Макара, Сяргея, Яфіма.
**К.:** Бернарды, Валерыі, Марты, Юстыны, Валяр’яна, Германа, Максіма.

**15 красавіка**
**Пр.:** Палікарпа, Ціта.
**К.:** Анастасіі, Базыля, Вацлава, Цэзара.

**16 красавіка**
**Пр.:**Фядоссі, Мікіты.
**К.:** Ксеніі, Марыі, Юліі, Бенядыкта.

**17 красавіка**
**Пр.:**ВЕРБНІЦА, Веньяміна, Георгія (Юрыя), Герасіма, Рыгора, Засіма, Нікіфара, Іосіфа.
**К.:** ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ, Роберта, Рудольфа, Сцяпана.

**18 красавіка**
**Пр.:** Фядоры, Марка, Мікалая, Палікарпа, Платона, Сямёна.
**К.:** Аліцыі, Апалонія, Багуслава.

**19 красавіка**
**Пр**.: Івана, Якава.
**К.:**Ады, Эмы, Адольфа, Лявона.

**20 красавіка**
**Пр.:**Акуліны, Гаўрылы, Георгія, Данілы.
**К.:**Агнешкі, Амаліі, Тэадора, Часлава, Шымана.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Фильм С.Ростоцкого | | Сельская страда | | Старейшина на Кавказе | Режиссер фильма Каблунак | Глаз | Мыс в проливе Ла-Манш | Другое название Турку | Штат в США |
| Мороженое | | | | | | | И аромат, и зловоние | | |
| Скопище деревьев | | | | Залив Красного моря | | | | | |
| | | | | Русский писатель | | | | | |
| Продукт извержения вулкана | Порода собак | Река Волга в древности | | Монастырь у буддистов | | Русский поэт | | Школьная отметка | |
| Парикмахер | | | | | | | | | |
| | | | | | Жена лорда | | | | |
| Сумчатый медведь | | Белое солнце пустыни, персонаж | Знак препинания | | Корка на снегу | | Малая планета | | Страна на Аравийском п-ове |
| Местность в Москве | | | | | | | | | |
| Женское имя | | | | | | Город на реке Тибр | | | |
| Персидский царь | | | | Принадлежность для вязания | | | | | |
| Сторонник | | | | | | Звание | | | |

**Ответы на сканворд №14**
**По горизонтали:** Шахрух. Бак. Амман. Иго. Остап. Раритет. Ефим. Задаток. "Оракул". Обнова. Тумба. Толедо. Жом. Торнадо. **По вертикали:** Шкала. Химки. Ушное. Бит. Агами. Коп. Стека. Разность. Радон. Титов. Мол. Оратор. Кумжа. Обет. Бод. Амо. До.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень



**АВЕН.** Авенам на гэтым тыдні варта ўважлівей вывучаць партнёраў, а з сям'ёй варта быць больш шчырай, асабліва з малодшымі сваякамі. Аднак увесь тыдзень справы сямейныя наўрад ці будуць актуальныя, на палавесці дня - працоўныя моманты. Варта падумаць пра прасоўванне свайго праекта, прапануйце начальству ацаніць вашу ініцыятыву. Прыемныя клопаты, злучаныя з прадпрымальніцкай дзейнасцю, у выніку будуць шчодра ўзнагароджаны. У выхадныя не аб'ядайцеся; ёсць рызыка, што лішнія кілаграмы асядуць у вас на ягадзіцах.



**ЦЯЛЕЦ.** Цікавыя перспектывы адкрыюцца Цялятам у паездках. У камандзіроўцы раман удала не складзецца, нават не пачынайце. Добры настрой можа падтрымлівацца толькі спрыяльнай сямейнай атмасферай. Верагодна паступленне грошай, але неспадзяваныя выдаткі шмат будуць з'ядаць. У канцы тыдня можна садзіцца на дыету для пахудання.



**БЛІЗНЯТЫ.** Блізнятам у красавіку за мяжу лепш не ездзіць, да таго ж не варта жартаваць з законам. Імкненне да багацця прымусіць скарыстацца не лепшымі сродкамі для яго дасягнення. Тым часам сітуацыя з фінансамі роўная, але перспектыў хуткім часам не прадбачыцца. Лепш усё ж суадносіць пакупкі з магчымасцямі. Устрымайцеся ад шкодных звычак, па максімуму звядзіце ўжыванне алкаголю "на не".



**РАК**. Прыбыткі Ракаў не будуць залежыць ад іх уласных намаганняў. Паспяховымі будуць калектыўныя праекты. Добра будуць ісці справы і з сацыяльна арыентаваным бізнэсам. На гэтым тыдні не варта купляць жыллё і рабіць рамонт: выйдзе не так, як хацелася. Будучая нявызначанасць у маёмасных правах прымусіць пахвалявацца. Існуе рызыка ўлезці ў судзебны падзел жылля. Сцерагчыся варта раманаў з кліентамі ці начальствам. З дзецьмі лепш мець зносіны, як з роўнымі. Цяпер Ракам варта своечасова сілкавацца.



**ЛЕЎ.** Ільвам на гэтым тыдні прыйдзецца рабіць тое, што трэба, а не тое, што жадаецца. Рызыка на гэтым тыдні – звычайная з'ява. Аднак не варта спрабаваць вярнуцца на папярэднюю працу. Ільвы паспрабуюць пабыць дамаседамі і атрымаюць ад сям'і неспадзеўкі, прыемныя ці не, высветліцца пасля. Спроба завесці хатняга ўлюбёнца пераверне ўвесь побыт. Вострая ежа можа справакаваць аднаўленне даўно забытых захворванняў.



**ПАННА.** Лепш за ўсё будуць атрымлівацца справы, дзе вы самі за ўсё адказваеце, аднак не дазваляйце сабой дырыжыраваць. Займіцеся ўборкай працоўнага месца, магчыма, вы выявіце цікавыя рэчы, пра якія даўно забыліся. Фінансавае становішча цяпер стабільнае, можна нават атрымаць важкі прыбытак. Паннаў - і сямейных, і нежанатых - чакае суцэльная рамантыка. З-за душэўных хваляванняў варта асцерагацца праблем з сэрцам, але гэта тычыцца толькі Паннаў пасля 40-ка гадоў.



**ШАЛІ.** Шалі ўвесь тыдзень спазняюцца і занадта давяраюць рэкламе. Каб не папасці ў дэпрэсію, трэба пагадзіцца з дарагім чалавекам. Дзеці турбуюць Шаляў павышанай энергічнасцю; пасля іх дзікіх гульняў прадстаўнікі знака наводзяць парадак, але вельмі хутка ўсё вяртаецца да зыходнага стану. Шалі павінны выявіць настойлівасць, калі жадаюць штосьці змяніць у сямейным побыце. Будзе не лішнім паклапаціцца пра ўласны імунітэт, ужываць больш садавіны і гароднiны.



**СКАРПІЁН.** Фінансавыя выдаткі Скарпіёнаў не павінны быць ні вялікімі, ні частымі. Сэканомленыя сродкі можна аднесці ў краму і выдаткаваць вылучна на сябе. Перспектыву на будучыню можна выбачаць толькі ўдалечыні ад хаты. Не распыляйцеся ў розных справах і не саромейцеся карыстацца знаёмствамі. Цяпер важна не перагружаць нервовую сістэму, больш адпачываць на свежым паветры і пазбягаць канфліктаў.



**СТРАЛЕЦ.** Стральцам варта цвёрда стаяць на нагах і не імкнуцца хапаць зоркі, досыць таго, што ёсць. Напачатку тыдня можна рызыкнуць - інвеставаць зберажэнні ва ўласную справу, варта толькі напярэдадні параіцца са спецыялістамі. Удалая ўгода дапаможа аднавіць справядлівасць і, магчыма, вас прадставяць да чарговай прэміі.Наладжвайце адносіны са старэйшымі і больш увагі звяртайце на побытавыя звычкі дзяцей. Пазбаўцеся ад пары лішніх кіло пры дапамозе фруктовай дыеты.



**КАЗЯРОГ.** У Казярога галоўны рухавік - уласная актыўнасць, але ўключаць яе лепш бліжэй да сярэдзіны тыдня. Казярогі цалкам забяспечаны матэрыяльна, аднак з буйнымі пакупкамі прыйдзецца пачакаць да канца тыдня. Прадстаўнікам знака не варта рыхтаваць жыллё "пад сябе": каханаму будзе няўтульна. Казярогу цяпер жыццёва неабходна берагчы органы стрававання і ныркі, адмовіцца ад экзатычных і цяжкіх страў, пазбягаць спіртнога.



**ВАДАЛЕЙ.** Фінансавыя справы Вадалеяў на гэтым тыдні вельмі заблытаныя, паўстануць супярэчнасці ў паперах. Па гэтым чынніку нечаканыя камандзіроўкі лепш адкласці да лепшых часоў. Красавіцкае знаёмства ў Вадалеяў можа перарасці ў штосьці большае. Існуе пагроза выпадковых парэзаў падчас прыгатавання ежы. У гэтым выпадку не варта займацца самалячэннем, важна своечасова спыніць інфекцыю.



**РЫБЫ.** Рыбам на гэтым тыдні прасцей быць падпарадкаванымі, чым начальнікамі. У крытычнай сітуацыі прыйдзецца шукаць падтрымкі ці пазыкі. Прадстаўнікі знака з задавальненнем будуць віць гняздзечка для каханых. Увесь тыдзень неабходна сцерагчыся прастуды; калі ж застудзіліся, варта адляжацца ў хатніх умовах і не рызыкаваць здароўем.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 12 04. 2011года ў 21.05

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 1371

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на “Вольнае Глыбокае” абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009